наша свабода

№113(200) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

17 КАСТРЫЧНІКА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Сканаў Максім Лужанін



13 кастрычніка на 92-ім годзе жыцця памёр вядомы беларускі паэт, празаік і перакладчык Максім Лужанін, адзін з самых старэйшых беларускіх пісьменнікаў.

Максім Лужанін (сапраўднае прозвішча – Аляксандр Амвросавіч Каратай) нарадзіўся ў 1909 годзе ў вёсцы Прусы Салігорскага раёна. Ён быў сябрам пісьменніцкіх суполак «Маладняк» і «Узвышша», заўзята дзеяў у хвалі беларускага адраджэння 20-ых гадоў. Быў рэпрэсіраваны. Творчая біяграфія вельмі разнастайная: часопіс «Узвышша», беларускае радыё, газета «Звязда», часопіс «Вожык», кінастудыя «Беларусьфільм»,

Першы верш («Звоніць восень») Максім Лужанін надрукаваў у 16 гадоў. Потым былі зборнікі «Крокі», «Новая ростань», «Шырокае поле вайны», «Свята Радзімы», «Паразмаўляй са мной, зямля», «Наўздагон за падвойнікам» і іншыя.

Пахаваны Максім Лужанін у вёсцы Паперня Мінскага раёна на тых самых могілках, дзе знайшла спачын яганая жонка – паэтка Яўгенія Пляўфбаўм.

## На паперы – густа, а ў сьвірнах – пуста

*Паводле зьвестак Рацыі, неўзабаве Лукашэнка зьбярэ нараду, пасьля якой, магчыма, страцяць свае пасады некаторыя вэртыкальшчыкі ды іншыя дзяржаўныя чыноўнікі. Кадравы перагрупаванне могуць выклікаць прыпіскі: прэзыдэнцкія кантралёры выявілі, што Лукашэнку нахабна падманулі яганыя падначаленыя, якія бадзёра адрапартавалі аб рэкордным ураджаі збожжа.*

Падчас традыцыйнае сэлектарнае нарады, што адбылася перад пачаткам жніва ўсе вэртыкальшчыкі абяцалі Лукашэнку выканаць і перавыканаць пляны продажу збожжа дзяржаве. І сапраўды, на паперы усё атрымалася вельмі гладка. Напярэдадні сьвяткаваньня «Дажынак» віцэ-прэм'ер ураду ў справах сельскай гаспадаркі Аляксандар Папкоў заявіў, што цяперашняя ўборачная кампанія склалася для краіны вельмі ўдала: сабрана 6.200 тыс. тон збожжа, а гэта на цэлых 20 адсоткаў больш, чымся летась.

Лукашэнка быў вельмі задаволены з вынікаў жніва й не скупіўся на падарункі пераможцам «сацыялістычнага» спаборніцтва. 12 мэханізатараў, якія занялі першыя месцы, атрымалі ў падарунак легкавыя аўтамабілі «Жыгулі» й «Ніва», «срэбныя» й «бронзавыя» прызёры былі ўзнагароджаны халадзільнікамі й каляровымі тэлевізарамі адпаведна. 6 раёнаў Беларусі, якія сабралі найлепшы ўраджай збожжа, атрымалі ад Лукашэнкі ганаровыя граматы, па 3 мільёны беларускіх рублёў, а таксама па легкавым аўтамабілі.

Расчулены нябачным раней посьпехам у «бітве за ўраджай» Лукашэнка нават зрабіў заяву, што Беларусь можа цалкам забясьпечваць сябе збожжам.

Заканчэнне на стар.3

# Дэзерцір з «калашнікавым» на вуліцах Мінска

Надзвычайнае здарэнне адбылося ў нядзелю ў беларускай сталіцы. Раніцай 14 кастрычніка шараговец тэрміновай службы збег з паста ва Уручча з аўтаматам Калашнікава і баявымі патронамі. Увесь дзень ён разгульваў па вуліцах Мінска, і толькі пад вечар яго затрымалі міліцыянты.

Як паведаміў прэс-цэнтр Галоўнага ўпраўлення ўнутраных справаў Мінскага гарвыканкама, адсутнасць вартавога вайсковай часткі 3214 унутраных войскаў МУС Беларусі была выкрытая каля 6 гадзіны раніцы ў нядзелю. Высветлілася, што 18-гадовы нараджэнец Гомеля ўцёк, прыхапіўшы аўтамат і два магазіны да яго – 60 баявых патронаў.

На працягу амаль усяго дня пра «беларускага Рэмба» не было нічога чуваць. Але гэта зусім не значыць, што жыхары сталіцы былі ў бяспецы.

Першы сігнал аб з'яўленні ваеннаслужачага з аўтаматам на вуліцах Мінска паступіў увечары. Салдат, пагражаючы аўтаматам, спыніў аўтамабіль «Жыгулі» на вуліцы Алібегава і патрабаваў ад кіроўцы адвезці яго і ягонага 16-гадовага сябра на чыгуначны вакзал. Адзначым, што вуліца Алібегава – гэта мікрараён Паўднёвы Захад, каб туды патрапіць з мікрараёна Уручча, трэба перасячы ледзь не ўвесь горад. А гэта значыць, што 18-гадовы хлопец прадстаўляў патэнцыйную небяспеку для тысячаў менчукоў і гасцей сталіцы.

Кіроўцу «жыгулёў» удалося выскачыць з машыны і нават паклікаць на дапамогу. Жаўнеру і ягонаму мінскаму сябру давялося ўцякаць.

Пазней у выніку «аператыўна-следчых мерапрыемстваў», як гэта называе прэс-цэнтр ГУУС Мінгарвыканкама, каля 23.15 абодва хлопцы былі затрыманыя на вуліцы Якубоўскага (мікраён Захад). Пры затрыманні яны не аказалі ніякага супраціву і добраахвотна здалі баявую зброю.

На гэтай справе Мінская міжгарнізонная ваенная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу. Вайсковым пінкертонам цяпер давядзецца высветліць, якім чынам узброенаму вартавому ўдалося пакінуць тэрыторыю часці.

**Міхась КАРПОВІЧ**



Фота IREX/ProMedia

# Улада пагразла ў карупцыі

## *Хабарніцтва ў Беларусі набыло пагрозлівыя памеры*

85 працэнтаў апытаных сацыёлагамі прадпрымальнікаў заявілі, што вымушаныя даваць хабар прадстаўнікам органаў улады. Такія звесткі апытання, праведзенага ў ліпені-жніўні 2001 года кансультантамі Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК).

На анкету адказалі 335 прадпрымальнікаў. 44 працэнты рэспандэнтаў адзначылі, што даюць хабар «зрэдку», а 41 працэнт пастаянна даюць хабар чыноўнікам. І 15 працэнтаў апытаных лічаць, што такой з'явы, як хабар, не існуе.

93 працэнты беларускіх прадпрымальнікаў лічаць, што прыватны бізнес павінен абараняць свае інтарэсы перад дзяржавай.

Адказы на пытанне «Як найбольш эфектыўна прадпрымальнікі могуць абараняць свае інтарэсы перад дзяржавай?» паказалі, што не ўсе рэспандэнты дакладна ўяўляюць, што трэба рабіць. Большасць – 58 працэнтаў лічаць, што для гэтага лепш за ўсё аб'ядноўвацца ў прафсаюзы, якія і будуць лабіраваць інтарэсы прыватнага бізнесу ў органах улады. 16 працэнтаў лічаць, што для іх працей працягваць практыку зносінаў «адзін на адзін» з патрэбным чыноўнікам. 6 працэнтаў ведаюць «іншыя» шляхі абароны сваіх інтарэсаў перад дзяржавай, але ніхто з іх не назваў, які менавіта. І 20 працэнтаў апытаных не змаглі вызначыць найбольш эфектыўны шлях абароны сваіх інтарэсаў.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ**

# Михаил Маринич: «Главная задача – оздоровление экономики»

*16 октября, спустя неделю после второй конференции Международной общественной организации «Белорусская ассоциация «Деловая инициатива», ее президент Михаил Маринич встретился с журналистами.*

Бывший посол в Латвии, по совместительству – в Эстонии и Финляндии заявил, что организации, действующей с лета 1999 года, потребовались «вливания свежей крови».

«Главной проблемой является экономика, которая будет влиять и на решение политических задач. Движение будет развиваться, потому что цели «Деловой инициативы» – неполитические», – убежден М.Маринич.

Экс-посол заявляет, что «белорусская экономика вошла в XXI век как самая отсталая на постсоветском пространстве, да и во всей Центральной и Восточной Европе в целом», а белорусский капитал работает где угодно, но только не в Беларуси. Поэтому обновленная «Деловая инициатива» главной целью провозгласила содействие выходу белорусской экономики из кризиса, в том числе собирается «возвратить белорусских бизнесменов вместе с капиталами домой».

«Деловая инициатива» намерена открыть свои представительства как во всех регионах Беларуси, так и за границей, и сотрудничать с аналогичными зарубежными структурами. Первый шаг на этом пути уже сделан: 11-12 октября Михаил Маринич на «Балтийском форуме» в Риге подписал соглашение о сотрудничестве.

Окончание на стр.3

## Акцыя памяці

Днямі Мінгарвыканкам мусіць разгледзець заяўку грамадзянскай ініцыятывы «За выратаванне мэмарыяла «Курапаты» на правядзенне акцыі, прысвечанай памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. Акцыя павінна прайсці 30 кастрычніка. Грамадзянаў заклікаюць прыйсці са свечкамі на месцы пахавання ахвяраў сталінізму: ва ўрочышча Курапаты, парк Чалюскінцаў, у Лошыцкі парк і да будынка КДБ. Мяркуецца, што гэтым днём падобныя акцыі пройдуць у многіх рэгіёнах Беларусі.

## Настае халадэча

Па прагнозах сіноптыкаў, з 19 кастрычніка па ўсёй тэрыторыі Беларусі рэзка пахаладнее. Тэмпература паветра паніжаецца да мінус 5 градусаў уначы і плюс 3-8 удзень. Магчымы нават мокры снег.

## Абноўленая Камароўка

У Мінску адбылося афіцыйнае адкрыццё сезоннай часткі Камароўскага рынку з сучасна абсталяванымі, у тым ліку і лядоўнымі ўстаноўкамі, гандлёвымі месцамі. Усяго іх каля тысячы. На пляцоўцы перад самым рынкам збудаваныя фантаны і пакладзена дробная плітка.

## Аўто Брэстчыны

Кожная трэцяя сям'я на Брэстчыне мае аўтамабіль. Усяго ў вобласці зараз зарэгістравана каля 220.000 адзінак асабістага транспарту. Праўда, купляць машын тут сталі меней. Летась у дзяржаўтаінспекцыі было зарэгістравана 28 тысяч аўто, тады як у 1993 – 49 тысяч.

## Кітайская ўзнагарода беларусу

Генеральны дырэктар Мінскага завода колавых цягачоў Уладзімір Волкаў узнагароджаны дзяржаўнай узнагародай Кітайскай Народнай Рэспублікі – ордэнам Залатога Звона. Паводле кітайцаў, ён зрабіў значны ўнёсак у развіццё эканомікі і прамысловасці кітайскай правінцыі Хубэй, дзе тры гады таму было створанае і ўдала запрацавала сумеснае беларуска-кітайскае прадпрыемства «Санцзян-Волат».

## Музейны даведнік

На беларускай і англійскай мовах пабачыў свет навукова-метадычны зборнік «Музеі Беларусі», у якім змяшчаная інфармацыя пра ўсе 140 дзяржаўных музеяў: адрасы, плошчы выставачных залаў і фондасховішчаў, пералік калекцыяў і самых цікавых экспанатаў.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1505**

## Міліцыя прыходзіла да абаронцаў Курапатаў

15 кастрычніка прадстаўнікі абласнога і раённага кіраўніцтва міліцыі наведалі лагер валанцёраў у Курапатах.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе незарэгістраванага маладзёжнага аб'яднання Малады Фронт, да добраахвотнікаў, якія ўжо чацвёрты тыдзень праводзяць ва ўрочышчы кругласутачнае дзяжурства, прыехалі начальнік упраўлення аховы грамадскага парадку ўпраўлення ўнутраных справаў Мінскай вобласці Ігар Уладыка і намеснік начальніка Мінскага раённага ўпраўлення ўнутраных справаў, які не прадставіўся маладым людзям. Міліцэйскія начальнікі спрабавалі абвінаваціць юнакоў і дзяўчат у несанкцыяраваным пікетаванні.

Свой візіт у Курапаты прадстаўнікі сілавога ведамства растлумачылі тым, што ў абласное ўпраўленне ўнутраных справаў наступіў ліст ад рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Белдзіпрадар» і Камітэта па аўтамабільных дарогах пры міністэрстве транспарту і камунікацыяў. У ім дарожнікі скардзіліся на тое, што маладафронтаўцы перашкаджаюць рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі, якая прылягае да зоны мемарыяла.

**БелаПАН**

## Беларускамі гандлююць і ў Расіі

Расія становіцца яшчэ адной краінай прызначэння для крымінальных структураў, якія гандлююць беларускімі жанчынамі. Такую заяву зрабіла 16 кастрычніка ў Гомелі прэзідэнт грамадскай арганізацыі «Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын» Ірына Альхоўка, гаворачы пра вынікі семінара, які гэтая асацыяцыя сумесна з польскім фондам па барацьбе з гандлем жанчынамі «Ла Страда» (Варшава) у рамках рэалізуемага імі праекта «Арыядна» правяла ў Гомелі для прадстаўнікоў дзяржаўных органаў улады і грамадскіх арганізацыяў.

Паводле словаў Альхоўкі, гандаль людзьмі лічыцца трэцім па даходах злачынным заняццем у свеце пасля збыту наркотыкаў і зброі. У Беларусі ў асноўным ахвярамі гандляроў становяцца жанчыны, якія мараць шляхам працы за мяжой або афармлення шлюбу з замежным грамадзянінам палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Ірына Альхоўка адзначыла, што нярэдкія выпадкі, калі беларускі падвяргаюцца сексуальнай эксплуатацыі і рабскай працы.

Найбольш папулярныя краіны, куды імкнуцца паехаць жанчыны і дзе іх чакае небяспека стаць рабынямі, – Польшча, Германія, Галандыя, Турцыя, Ізраіль, а цяпер і Расія. Як правіла, пасольствы неахвотна аказваюць дапамогу жанчынам, стаўшым ахвярамі гвалту, і таму, на думку Альхоўкі, альтэрнатыўнай крыніцай дапамогі павінны стаць грамадскія арганізацыі. Прынамсі, як лічыць Альхоўка, і трэцяму сектару, і дзяржаўным органам па сілах прадаставіць жанчыне, якая хоча паехаць на заробкі за мяжу, усю інфармацыю, здольную гарантаваць яе бяспеку.

**Ірына ШАНЦАВА**

**УЛАДА**

## Незалежным СМІ з Лукашэнкам нельга

«Абнаўленне звестак» – так назваў кіраўнік прэс-службы прэзідэнта Беларусі Дзмітрый Жук збор звестак аб журналістах, жадаючых акрэдытавацца для асвятлення візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Гомельскую вобласць.

Візіт намечаны на 23 кастрычніка, яго мэта – ажыццяўленне кантролю за выкананнем рашэнняў 2-га Усебеларускага народнага сходу.

Для акрэдытацыі журналістам неабходна было ўказаць не толькі прозвішча і месца працы, як гэта прынята ў падобных выпадках, але і месца нараджэння, нумар і серыю пашпарта, кім і калі ён выдадзены, а таксама месца прапіскі. Нягледзячы на прадстаўленне падрабязных звестак, журналісты з Гомельскай вобласці атрымалі толькі 9 месцаў. З іх палова аддадзеная супрацоўнікам абласнога тэлерадыёаб'яднання, астатнія занялі ўласныя карэспандэнты дзяржаўных выданняў. Карэспандэнтам недзяржаўных рэспубліканскіх газет і гарадскіх СМІ Гомеля ў акрэдытацыі адмоўлена. Афіцыйная прычына – недахоп месцаў у зале, дзе чакаецца выступленне кіраўніка дзяржавы.

**Ірына ШАНЦАВА**

## Спаборніцтвы памежнікаў

16 кастрычніка ў Смаргоні на базе школы па падрыхтоўцы інструктараў службовых сабак пачаліся спаборніцтвы на званне лепшай у пагранічных войсках Беларусі пошукавай групы, лепшага следапыта і інструктара службы сабак. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі. У спаборніцтвах бяруць удзел лепшыя спецыялісты з усіх злучэнняў і часцей. Для пераможцаў падрыхтаваныя ганаровыя дыпломы, граматы, каштоўныя прызы і пераходны кубак.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

**ІНІЦЫЯТЫВА**

## Чаргінца хочуць ушанаваць

Прэзыдуюм Савету рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі зьвярнуўся да Лукашэнкі з хадайніцтвам аб узнагароджаньні ордэнам Пашаны «сэнатара» Мікалая Чаргінца.

Генэрал міліцыі ў адстаўцы Мікалай Чаргінец узначальвае ў верхняй «палатцы» Нацыянальнага сходу камісію па міжнародных справах і бясьпецы. Калегі Чаргінца па Савеце Рэспублікі зьвярнуліся да Лукашэнкі з просьбай узнагародзіць дэпутата-генэрала ордэнам Пашаны. У звароце «сэнатараў» адзначаецца, што Чаргінец нібыта зрабіў вялікі ўнёсак у разьвіцьцё нацыянальнага заканадаўства, міжпарлямэнцкіх, эканамічных і культурных сувязяў Беларусі з замежнымі краінамі.

Зь якімі канкрэтна замежнымі краінамі ўмацаваў стасункі Беларусі Мікалай Чаргінец, не паведамляецца. А што да ягонай заканатворчай дзейнасьці, то тут генэрал зазнаў ганебную паразу: падрыхтаваны ім праект Закону аб інфармацыйнай бясьпецы настолькі адыёзны, што яго адхілілі нават дэпутаты паслухмянай Лукашэнку Палаты прадстаўнікоў. Тым ня менш, амаль ніхто не сумняецца, што Чаргінец атрымае ордэн Пашаны. Бо менавіта ён узначальваў лукашэнкаўскі выбарчы штаб. Праўда, у выбарчай кампаніі Чаргінец быў толькі «вясельным генэралам», неабходны Лукашэнку вынік забясьпечвалі найперш вэртыкальшчыкі. Але ж і ўзнагарода ня самая высокая.

**Ян МІКАЛАЕЎ, Радыё «Рацыя»**

**СТРАЙК**

## Супраць чыноўніцкага самавольства

15 кастрычніка прыватныя прадпрымальнікі, якія працуюць на Магілёўскім аўтамабільным рынку, абвясцілі двухдзённую папераджальную забастоўку. Такім чынам яны выступаюць супраць самавольства чыноўнікаў, што праяўляецца ў правядзенні шматлікіх праверак. Калі канфлікт не будзе ўрэгуляваны, гандляры аўтазапчастак не выключаюць магчымасці адмаўлення выходзіць на працу ў кастрычніку і лістападзе.

Па словах прадпрымальнікаў, на працягу мінулага тыдня на аўтарынак адначасова прыбылі правяраючыя санітарнай службы, аддзела цэнаў аблвыканкама, экалагічнай міліцыі і аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. У выніку некаторыя работнікі рынку атрымалі позвы адразу з некалькіх інстанцыяў з патрабаваннем яўкі ў адзін і той жа дзень.

Па словах старшыні абласнога тэрытарыяльнага камітэта прадпрымальніцтва і інвестыцыяў Віктара Красоўскага, канфлікту магло б не быць, калі б адпаведныя кантралюючыя органы належным чынам выконвалі свае абавязкі, праводзілі інфармацыйную і растлумачальную працу ў прадпрымальніцкім асяроддзі. Са свайго боку ён паабяцаў садзейнічанне камітэту ў правядзенні аналізу праверак на аўтарынку і папярэджванні падобных канфліктных сітуацыяў у далейшым. Камітэтам па прадпрымальніцтве таксама будзе падрыхтаваная справаздача аб праблемах аўтарынку на імя старшыні аблвыканкама Барыса Батуры.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Бюджэт пабольшае

На мінулым тыдні беларускія мытнікі канфіскавалі ў парушальнікаў 14 адзінак аўтатранспарту на суму 108 мільёнаў 838 тысяч рублёў. З 8 па 14 кастрычніка мытнікамі было выяўлена 296 фактаў парушэння заканадаўства, па якіх канфіскавана тавараў і каштоўнасцяў на 815 мільёнаў 476 тысяч рублёў. Такія звесткі БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта.

Паводле звестак мытнікаў, за названы перыяд у парушальнікаў было канфіскавана больш за 40 тысяч долараў, звыш за 60 тысяч нямецкіх марак, амаль 50 тысяч расійскіх рублёў і іншая валюта на агульную суму 107 мільёнаў 251 тысяча рублёў. Акрамя гэтага, мытнікамі прадухіленыя спробы кантрабанды 411 літраў алкагольнай прадукцыі на суму 1 мільён 122 тысячы рублёў; 18 ювелірных вырабаў з золата агульнай вагой больш чым 50 грамаў на суму 651 тысяча рублёў; 18 іконаў і адзін крыж XIX стагоддзя на суму 4 мільёны 55 тысяч рублёў. Для ўтойвання ад мытнага афармлення парушальнікі выкарыстоўвалі падробныя дакументы, дакументы з недакладнымі звесткамі аб таварах.

**Аляксей АРЭШКА**

**МЯЖА**

## Праезд у Польшчу па спецдазволе

Для таго, каб перасекчы беларуска-польскую мяжу ў пунктах пропуску, дзе не прадугледжанае афармленне грузаў, уладальнікам грузавога, грузапасажырскага і грузаўніверсальнага транспарту цяпер неабходна атрымаць спецыяльны дазвол Галоўнай камендатуры пагранічнай варты Польшчы.

Раней грузавыя і грузапасажырскія аўтобусы маглі перасякаць мяжу ў любых пунктах пропуску, аднак потым польская пагранічная варта ў аднабаковым парадку і без тлумачэнняў спыніла пропуск праз дзяржаўную мяжу грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў у тых пагранічных пунктах пропуску, дзе не прадугледжанае афармленне грузаў (у тым ліку на «Варшаўскім мосце»).

Як паясніў БелаПАН кіраўнік прэс-цэнтра Брэсцкай пагрангрупы Дзмітрый Дзевятаў, парадак пропуску зменены па рашэнні міністэрства транспарту і марской гаспадаркі Польшчы.

**БелаПАН**

**ЛЮСТРАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

Птушкі сілкуюцца апошнім зерняткам перад адлётам з Беларусі, таму што тут няма чаго есці. І не толькі ім

**РЭАКТАР**

## Над Ігналінскай АЭС – чыстае неба

Міністэрства абароны Літвы мае намер пашырыць зону, забароненую для палётаў над Ігналінскай АЭС. Аб гэтым паведаміла Літоўскае тэлебачанне.

Зараз над атамнай станцыяй, што знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад беларускай мяжы, забаронены палёты на вышыні ніжэй 6 кіламетраў і ў радыусе 5 кіламетраў. Пасля пашырэння зона забароны палётаў павялічыцца да 30 кіламетраў, а яе радыус узрасце да 20 кіламетраў.

Магчыма, рашэнне мінабароны Літвы стала вынікам нарады па забеспячэнні бяспекі Ігналінскай АЭС, праведзенай днямі міністэрствам аховы краю Літвы. Як паведамілі СМІ, знешняя ахова станцыі падчас нарады прызнана недастатковай. Па словах прэс-сакратара МЗС Беларусі Паўла Латушкі, гэтае паведамленне дае адказ на пытанне Беларусі, ці сапраўды прынятыя літоўскім бокам намаганні з'яўляюцца «максімальна магчымымі», як аб гэтым даводзіла МЗС Літвы.

**БелаПАН**



## Што вецер нарабіў

Вядуцца рамонтна-аднаўленчыя работы на шэрагу аб'ектаў АПК Гродзенскай вобласці, якія пацярпелі ад моцнага ветру ў ноч з 11 на 12 кастрычніка.

Найбольш сур'ёзныя страты прычыненыя аб'ектам Воранаўскага раёна. Так, у вёсцы Дайнова ветрам было сарвана 73 лісты шыферу з будынка цэха для прыгатавання кармоў, у вёсцы Рэмезава – 123 лісты з будынка малочнатаварнай фермы, у вёсцы Ківанцы – 271 ліст з будынкаў свінагадоўчага комплексу. Акрамя гэтага, пацярпелі аб'екты яшчэ ў шасці гаспадарках Воранаўскага раёна.

На тэрыторыі Навагрудскага раёна пацярпела малочнатаварная ферма ў вёсцы Вераснова: з будынка сарваны шыферны дах на вялікай плошчы. На месцы працуе камісія па надзвычайных сітуацыях пры Навагрудскім райвыканкаме. Чалавечых ахвяраў, на шчасце, няма.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

**АКЦЫЯ**

## Конкурс школьных газет

Да 5 лістапада прадоўжаны II конкурс школьных і вучнёўскіх газет, які праводзіць Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай школы» (ТБШ).

Як паведаміў БелаПАН прэзідэнт ТБШ Алесь Лозка, такое рашэнне выклікане тым, што пакуль у конкурсе не ўзяло ўдзел ніводнае сталічнае выданне. Сёння журы атрымала матэрыялы на 25 газет, якія прадстаўляюць усе рэгіёны краіны.

Сярод найбольш цікавых Алесь Лозка назваў маладзёжнае выданне скаўцкай харугвы Крупскага раёна Мінскай вобласці «Маладое Палессе», газету скаўцкай харугвы горада Вілейкі Мінскай вобласці «Лілея» і выданне для школьнікаў, моладзі і іх бацькоў «Школьная газета» (Гомель). Прычым, апошняя з'яўляецца адзінай з паступіўшых на конкурс газет, зарэгістраванай у міністэрстве інфармацыі.

Для ўдзелу ў конкурсе прымаюцца не меней за два асобнікі выдання за апошнія пяць гадоў, у тым ліку адзін з іх за 2000 год. Газеты, часопісы і іншыя выданні могуць мець адвольны фармат і афармленне – ад рукапіснага да камп'ютэрнага. Пры падвядзенні вынікаў конкурсу прыярытэт будзе аддавацца тым выданням, у якіх знойдуць дастойнае асвятленне пытанні краязнаўства і надзённыя праблемы рэгіёна.

**Марат ГАРАВЫ**

## Вайскоўцаў правяраюць на радыяцыю

16 кастрычніка на беларуска-ўкраінскім участку дзяржаўнай мяжы пачаліся тактыка-спецыяльныя вучэнні. Дзяржаўны камітэт пагранічных войскаў рэспублікі правядзе іх сумесна са спецыялістамі Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце міністраў Беларусі. Задума вучэнняў ухваленая кіраўнікамі абодвух ведамстваў: Аляксандрам Паўлоўскім і Уладзімірам Цалко.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры пагранічнага ведамства, асноўная мэта вучэнняў — выяўленне фактычнага ўзроўню апраменьвання радыенуклідамі ваеннаслужачых Гомельскага пагранічнага атрада. Такім чынам, кіраўніцтва Дзяржкамітэта вырашыла высветліць, якую дозу апраменьвання атрымалі тыя, хто нясе службу на беларуска-ўкраінскай мяжы, а таксама вызначыць, каму з іх цяпер патрабуецца сацыяльная або медыцынская дапамога.

Плануецца, што ўсяго будуць абследаваныя больш за 600 чалавек. Апрача спецыялістаў хімічнай і ваенна-медыцынскай службаў Дзяржкамітэта пагранвойскаў Беларусі, да абследавання пагранічнікаў будуць прыцягнутыя таксама супрацоўнікі Гомельскага філіяла інстытута радыяцыйнай медыцыны са сваёй спецыяльнай лабараторыяй.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# На паперы – густа, а ў сьвірнах – пуста




Беларускі хлеб, сабраны сёлета, апынуўся панадкусаным – не стае 20%. Але Аляксандр Папкоў (на пярэднім плане) гэтага «не заўважае».

*Заканчэньне, пачатак на стар.1*

Больш за тое: Лукашэнка паставіў перад вэртыкальшчыкамі мэту ў бліжэйшы час вырошчваць і зьбіраць ня менш як 10 мільёнаў тон збожжа штогод.

Аднак прайшло ўсяго некалькі тыдняў пасьля пампэзных «Дажынак», як высьветліся, што падставаў для сьвята ня было. Насамрэч, у сьвірнах беларускае дзяржавы рэальна ёсьць не 6,2 млн. тон збожжа, а меньш за 5. Аказваецца, некаторыя спрытныя вэртыкальшчыкі, каб выканаць даведзены Лукашэнкам плян здачы збожжа, займаліся прыпіскамі. Таму вялікім ураджай атрымаўся толькі на паперы, а ў застаронках беларускае дзяржавы, як і ў ранейшыя гады, ня вельмі густа. Ізноў давядзецца купляць зерне за мяжой.

Даведаўшыся пра падман, Лукашэнка вырашыў пакараць нядобрасумленных вэртыкальшчыкаў ды іншых чыноўных махляроў. Традыцыйная «публічная лупцоўка», па зьвестках Рацыі, можа адбыцца ўжо нават на гэтым тыдні.

**Ян МІКАЛАЕЎ**
**Радыё «Рацыя»**

## Паскардзіўся на калгас – і трапіў пад суд

Слуханні па справе жыхара вёскі Дружылавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці Івана Міхнаўца, які абвінавачваецца ў паклёпе ў сродках масавай інфармацыі, перанесены на 1 лістапада.

Як расказаў карэспандэнту БелаПАН Іван Міхнавец, ён напісаў скаргу ў Савет бяспекі, але яна была перададзеная ў Камітэт дзяржкантролю, а адтуль ён не атрымаў ніякага адказу. Пасля гэтага Міхнавец напісаў ліст кіраўніку дзяржавы, які быў апублікаваны ў «Белорусской деловой газете». Ён расказаў пра механізм прыпісак падчас уборачнай кампаніі ў сваёй гаспадарцы (на яго думку, збожжа з прыватных участкаў прыбаўлялі да валавага збору ў гаспадарцы, каб зрабіць справаздачу аб высокай ураджайнасці).

Пасля публікацыі, па ініцыятыве кіраўніка гаспадаркі, мясцовыя праваахоўныя органы ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле 188, частка 2 КК Беларусі (паклёп, які ўтрымліваецца ў сродках масавай інфармацыі). Суд Іванаўскага раёна прызнаў Міхнаўца вінаватым у распаўсюджванні лжывых звестак і прызначыў яму пакаранне ў выглядзе двух гадоў пазбаўлення волі з умоўным непрымяненнем пакарання тэрмінам на два гады.

Іван Міхнавец абскардзіў гэтае рашэнне і абласны суд яго адмяніў, прызначыўшы новы разгляд справы ў Драгічынскім райсудзе. Як расказаў Міхнавец, судовае паседжанне не адбылося, паколькі дзяржаўны абвінаваўца хадайнічаў аб пераносе слухання. Суд задаволіў гэтае хадайніцтва.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## 10 дзён арышту за абарону МАЗа



16 кастрычніка суддзя Заводскага райсуда Мінска Мікалай Балаўнёў асудзіў лідэра незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі Малады Фронт Паўла Севярынца да 10 дзён адміністратыўнага арышту. Такую цану давялося заплаціць маладзёну за арганізацыю несанкцыяванага пікета 2 кастрычніка супраць продажу Мінскага аўтамабільнага завода расійскай карпарацыі «СибАл».

Суд праходзіў у некалькі этапаў. Апошнім разам – 8 кастрычніка –суддзя М.Балаўнёў накіраваў адміністрацыйную справу ў адносінах да Паўла Севярынца «на дапрацоўку» ў Заводскі РАУС.

Рэч у тым, што за апошнія паўгода лідэр Младога Фронту тройчы затрымліваўся паводле артыкула 167 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, за што быў асуджаны да грашовых штрафаў і адміністрацыйнага арышту.

Міліцыянты, якія 2 кастрычніка на прахадной МАЗа ў часе акцыі «МАЗ – беларускі» затрымалі П.Севярынца, не паруніліся ўдакладніць, якое па колькасці правапарушэнне здзейсніў лідэр «МФ».

Мікалай Балаўнёў палічыў дастатковым прысутнасць на акцыі журналістаў, каб прызнаць пікет несанкцыяваным, а Паўла Севярынца – арганізатарам несанкцыяванага пікета. Адразу пасля зачытвання прысуду лідэра «МФ»адканваявалі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік МУС на Акрэсціна.

**Рыгор БУЯН**

# Грамада засталася без Караля

*14 кастрычніка Цэнтральны камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) прыняў пастанову аб скліканні пазачарговага з'езда 8-9 снежня. Галоўнымі пытаннямі на ім стануць падвядзенне вынікаў удзелу сацыял-дэмакратаў у прэзідэнцкіх выбарах і вырашэнне кадравых пытанняў.*

Народная Грамада заявіла аб сваёй падтрымцы шырокай грамадзянскай кааліцыі, але партыя гатовая далучыцца да кааліцыі пры адной умове. Старшыня Грамады Мікола Статкевіч заяўляе, што такой умовай з'яўляецца стварэнне спецыяльнай камісіі ў рамках Палітычнага савета пры адзіным кандыдаце ў прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі па расследаванні абнародаваных у друку фактаў карупцыі кіраўнікоў апазіцыі. М.Статкевіч адзначае, што з-за невыканання цэнтральным выбарчым штабам абавязацельстваў перад рэгіянальнымі штабамі рэгіянальныя кіраўнікі партыі апынуліся ў складанай сітуацыі, бо ў вачах шэраговых валанцёраў менавіта яны паўсталі ў вобразе «злодзеяў».

Паколькі партыя «трымаецца на кіраўніках сярэдняга звяна», гэтае пытанне патрабуе неадкладнага рашэння. Хаця, па прызнанні Міколы Статкевіча, ЦК «прадэманстраваў вялікую ступень адзінства ў партыі».

Між тым, да лагічнага канца прыйшло супрацьстаянне паміж лідэрам Народнай Грамады Міколам Статкевічам і ягоным намеснікам Аляксеем Каралём. Яно ўзнікла больш за год таму яшчэ да выбараў у Палату прадстаўнікоў: ЦК, насуперак рашэнню Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў байкатаваць выбары, афіцыйна не дазволіў, але і не забараніў удзел сацыял-дэмакратаў у выбарах. З-за гэтага сяброўства Народнай Грамады ў КРДС было прыпыненае. Аднак кіраўнік фракцыі «За адзінства ў Народнай Грамадзе» Аляксей Кароль працягваў удзел у паседжаннях КРДС. А.Караля абвінавацілі ў парушэнні партыйнага Статута, але ён заявіў пра аўтарытарныя метады кіравання партыяй з боку Міколы Статкевіча.

Цяпер супрацьстаянне скончылася: 14 кастрычніка Аляксей Кароль падаў у адстаўку. Такім чынам, цяперашняе кіраўніцтва Грамады складаецца з лідэра Міколы Статкевіча, яго намеснікаў Алеся Арэстовіча, Уладзіміра Нісцюка і Ніны Стужынскай.

Мікола Статкевіч гаворыць, што «ў нейкай ступені адстаўку А.Караля мы расцэньваем як прызнанне памылковасці ягонай пазіцыі, якая заключалася ў тым, што трэба ўдзельнічаць толькі ў сумленных выбарах».

**Рыгор БУЯН**

**КАРУПЦЫЯ**

## Чаму ў Гомелі самы дарагі хлеб

Гомельская абласная ўправа Камітэту барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй арыштавала намесьніка генэральнага дырэктара вытворчага аб'яднаньня «Гомельхлебпрам» Паўла Кундаса і начальніка аддзелу забесьпячэньня Алега Елісеева. Падобна, што будзе раскрытая загадка, чаму апошнія гады цэны на хлеб у рэгіёне былі найвышэйшыя ў краіне.

Як стала вядома з кампэтэнтных крыніцаў, ва ўправу барацьбы арганізаванай злачыннасьці й карупцыі выклікалі й генэральнага дырэктара «Гомельхлебпраму» Мікалая Пугачова — ён, дарэчы, былы першы сакратар гаркаму КПБ і нядаўні кіраўнік абласной арганізацыі Партыі камуністаў Беларускай.

Акурат пасьля падтрымкі камуністамі ПКБ на прэзыдэнцкіх выбарах адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі спадар Пугачоў заявіў, што адмаўляецца ўзначальваць рэгіянальную арганізацыю.

Якія пытаньні высьвятлялі міліцыянты ў генэральнага дырэктара «Хлебпраму» камуніста Пугачова, дакладна невядома. Аднак ягоных падначаленых Паўла Кундаса і Алега Елісеева антыкарупцыйная ўправа абвінавачвае ў хабарніцтве і раскраданьні дзяржаўных сродкаў. Распачалі крымінальную справу.

Як вядома, з падачы згаданых адказных асобаў «Гомельхлебпрам» купляў у камэрцыйных структураў за высокі кошт муку, зь якой і выпякалі дарагі хлеб. Падобныя зьдзелкі канфідэнцыйна аплочвалі камэрсанты.

Між тым аблвыканкам вымушаны быў прымаць адмысловыя рашэньні, каб неяк урэгуляваць цэны на хлеб. «Гомельхлебпрам» абавязаны 60% чорнага хлеба выпускаць коштам ня больш як 286 рублёў за бохан. Аднак і пасьля гэтага хлеб на радыяцыйна забруджанай Гомельшчыне на 26 рублёў даражэйшы, чымсьці, напрыклад, на Гарадзеншчыне.

Кошты на 40% так званага заварнага і подавага хлеба наогул адпушчаныя і даходзяць амаль да 500 рублёў за бохан вагою 800 грамаў.

Сёньня ж стала вядома, што блізіцца чарговае падаражэньне хлеба, але ўжо ня ў сувязі з падзеямі ў «Хлебпраме». Урад падвысіў на 20% закупачныя цэны на збожжа, і чыноўнікі ставяць пытаньне перад урадам, каб і кошты на хлеб з мукі новага ўраджаю павялічыліся прыкладна на 15%, прычым адначасна ва ўсіх рэгіёнах краіны.

**Казімер ЯНОЎСКІ**
**Радыё «Свабода»**

# Михаил Маринич: «Главная задача – оздоровление экономики»

*Окончание, начало на стр.1*



«Деловая инициатива», по словам Михаила Маринича, намерена сотрудничать со всеми государственными структурами: Национальным собранием, новым правительством и президентской администрацией. Однако вопрос в том, захочет ли Александр Лукашенко иметь дела с бывшим послом, выступившим во время президентских выборов на стороне широкой общественной коалиции? Во всяком случае, на запланированную встречу с деловыми кругами 18 октября «Деловая инициатива» не приглашена.

М.Маринич так откомментировал теперешние попытки российского капитала скупить на корню промышленные предприятия – гиганты Беларуси: «Да, нужен доступ капитала, в том числе и российского. Но предприятия, которые составляют основу экономики, должны быть белорусскими, а не иностранными. Надо идти по пути акционирования, реформирования, но с преобладанием белорусского капитала. МАЗ, новополоцкий нефтеперерабатывающий комплекс могут быть разгосударствлены, и часть своих мощностей реализовать. Но основной пакет акций предприятий-гигантов должен быть в руках государства», — убежден М.Маринич.

Бывший посол не скрывал, что во главе «Деловой инициативы» он попытается реализовать опыт, накопленный во время работы министром внешнеэкономических связей и послом в Латвии, Эстонии и Финляндии. «Лучшей политикой сегодня является экономика. И мне хотелось бы то, что недорабатывает государство во внешнеэкономической деятельности, не упустить и поддержать на общественном уровне.

Весь спектр внешнеэкономических связей сегодня нарушен... На общественном уровне в области внешнеэкономических связей мы будем действовать как мини-МВЭС. Но мы не можем замыкаться только на этом – наша основная работа заключается внутри Беларуси», — подчеркнул Михаил Маринич.

Не собирается он уходить и из политики. «Я не собираюсь поддерживать ни движение «За новую Беларусь», ни, к примеру, социал-демократическое движение, которое зарождается в нашем государстве. Но не это наши основные цели. Главная задача – оказать максимальное содействие обществу – я не говорю государству – в оздоровлении экономики, предотвращении дальнейшего спада», — подытожил Михаил Маринич.

Кстати, вполне возможно, что к «Деловой инициативе» может присоединиться и бывший премьер Владимир Ермошин, после президентских выборов оставшийся не у дел.

**Рыгор БУЯН**

**СЕМІНАРЫ**

## Праблемы фінансавання

### *Прайшоўшых прэзідэнцкіх выбараў абмеркавалі ўдзельнікі семінара ў Віцебску*

Старшыня Цэнтральнага каардынацыйнага савета грамадскіх арганізацыяў па назіранні за выбарамі Мечаслаў Грыб і старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта (БХК) Таццяна Процька правялі 14 кастрычніка ў Віцебску семінар «Выбары: вопыт, праблемы, перспектывы». У выніковай дыскусіі ўдзельнікі семінара — раённыя каардынатары назірання за выбарамі — сярод іншых пытанняў закранулі і праблемы фінансавання грамадскай працы і асабістай адказнасці за мэтавае выкарыстоўванне рэсурсаў.

«Барацьба за грошы, — заўважыў М.Грыб, — гэта не заўсёды барацьба па правілах». Пэўныя асобы, па словах Т.Процька, «сканцэнтравалі на сабе грашовыя патокі». Яна ж, аднак, перасцерагла ад «інсінуацыяў», сказаўшы, што спонсары і грантадаўцы «коса глядзяць» на тых, хто зараз мусіруе тэму фінансавага скандалу ў апазіцыі. З аднаго боку, прызнаўшы, што «мы самі вінаватыя ў тым, што ў фондаў ёсць насцярожанасць» і што «сёння не вырашана пытанне аб замежнай фінансавай дапамозе», Т.Процька акрэсліла сутнасць цяперашняга працэсу ў апазіцыі як «звядзенне рахункаў» і заключыла, што гэтае «звядзенне рахункаў выгаднае ўладзе».

З другога боку, старшыня БХК праявіла цікавасць да дакумента, прадстаўленага на семінары старшынёй Аршанскага раённага аддзялення БХК Васілём Берасневым. Гэта была копія распараджэння Аршанскага райвыканкама № 397р ад 4 кастрычніка 2001 года. З дакумента вынікае, што шэсць супрацоўнікаў раённай «вертыкалі», у тым ліку чатыры намеснікі і два загадчыкі аддзелаў райвыканкама, прэміраваныя на агульную суму ў 1 мільён рублёў, ад 150 да 200 тысяч рублёў кожны, як «найбольш актыўныя работнікі, якія бралі ўдзел у арганізацыйнай выбарчай кампаніі па выбарах Прэзідэнта РБ». У якасці падставы для гэтага прыведзенае адпаведнае распараджэнне аблвыканкама.

**Леанід СІМАНАЎ**

# Призрак сибирской язвы вступил в права

*Пять сотрудников издательской компании American Media Inc. заразились сибирской язвой. Это произошло в городе Бока Ратон, в штате Флорида. Здесь был обнаружен первый случай заболевания сибирской язвой. Из трех заболевших один человек скончался. После этого сведения о спорах сибирской язвы начали разрастаться в лавину. Так, было эвакуировано здание американского консульства в австралийском городе Мельбурн. Генеральный консул Дэйвид Лион заявил, что это было сделано в качестве меры предосторожности после того, как в одном из писем, полученных дипломатическим представительством США, было обнаружено подозрительное химическое вещество.*

В воскресенье Кентерберийский собор – главный храм англиканской религии – был закрыт после того, как во время службы там был замечен какой-то человек, который рассыпал белый порошок. Служители церкви и полицейские эвакуировали из храма несколько сот человек и отменили все дальнейшие службы.

По такой же причине была проведена эвакуация из аэропорта Вены. Австрийские полицейские обнаружили здесь 200-300 граммов таинственного порошка, который оказался смесью сахарной пудры с ванилью. Неизвестный порошок был обнаружен на борту самолета, летевшего из Франкфурта в Рио-де-Жанейро. В аэропорту Рио-де-Жанейро был объявлен карантин.

Напомним, что сибирская язва является опасным инфекционным заболеванием. Её инкубационный период составляет 2-3 дня. В различных формах болезнь проистекает по-разному. В наиболее тяжёлой, септической форме сибирской язвы возможен летальный исход. Смерть обычно наступает на пятый день болезни.

Штамм, разработанный в военных бактериологических лабораториях военными, более опасен. Пентагон заявил, что в настоящее время образцов модифицированных штаммов пока нет, и новая форма сибирской язвы существует лишь в теории.

Министерство здравоохранения РФ заявило о готовности в случае необходимости оказать помощь американским медикам в борьбе со вспышкой заболеваемости сибирской язвой. Министр здравоохранения РФ пояснил, что «прежде всего речь идет о вакцинации населения». По словам министра, в России есть вакцина против сибирской язвы, необходимые технологии для борьбы с этой болезнью и «коллекции мирового значения, которые мы сохранили, чтобы производить вакцину против сибирской язвы».

Сотрудники издающейся в Иерусалиме газеты «Маарив» во вторник также были эвакуированы из здания редакции после того как получили два анонимных письма с подозрительным белым порошком. Он передан в израильский Институт биологических исследований, эксперты которого пытаются выяснить, заражены ли конверты вирусом сибирской язвы. До этого в Израиле выявлены шесть подозрительных конвертов. Их изучение показало, что содержимое не представляет угрозы здоровью людей.

Польская полиция будет беспощадна к тем шутникам, которые решат заняться фальшивыми угрозами о терактах. Об этом заявил президент Польши Александер Квасьневский. Касаясь конвертов с неизвестным порошком, полученных различными адресатами в городе Гданьске, президент Польши сказал, что подозрительное вещество будет тщательно изучено в лучших лабораториях крупнейшими специалистами страны. Одиннадцать человек, имевших контакт с этим веществом, уже госпитализированы и проходят медицинское обследование, хотя власти почти уверены, что в этом случае речь идет о сахарной пудре, отправленной неизвестными шутниками. Этот шаг может дорого обойтись его авторам, поскольку власти намерены считать его преднамеренным покушением на систему безопасности государства.

**Малгожата ДЗЕРЖИНСКАЯ**

# 23 года на престоле



Папа римский Иоанн Павел II отметил во вторник 23-ю годовщину пребывания на папском престоле. По этому случаю он принял поздравления кардиналов и епископов, входящих в синод. В его адрес поступили сотни телеграмм от глав государств и правительств, видных политических и общественных деятелей со всего мира. Несмотря на почтенный возраст – в мае ему исполнится 82 года - и проблемы со здоровьем продолжает активную деятельность, хотя, как признают в Ватикане, уже не столь интенсивную, как несколько лет назад. За 23 года понтификата он совершил 95 зарубежных поездок, принял 1.330 политических деятелей, в том числе около 700 глав государств. Безусловно, что личный авторитет папы Иоанна Павлу II послужил возрождению авторитета католической церкви во всем мире.

**Агнета КВЯТКЕВИЧ**

# Американский спецназ напал на бин Ладена

На рассвете 16 октября части специального назначения армии США при поддержке вертолетной 160-й авиагруппы и турбовинтовых самолетов АС-130 начали сухопутную операцию на территории Афганистана.

О том, какие именно силы принимают участие в операции со стороны американцев, пока нет никакой информации. Известно лишь, что вторжение началось примерно в полночь по белорусскому времени, а подразделения, принимающие участие в операции, были переброшены под Кандагар с территории Омана. Единственным источником всей информации о наземной операции в Афганистане является телекомпания *Fox News*.

Так, по словам источников телекомпании в американском военном ведомстве, десант спецназа действует не в самом Кандагаре (в первых сообщениях утверждалось, что части спецназа ведут бои как раз за Кандагар), а в нескольких километрах к югу от него. Там базируется одно из самых боеспособных подразделений армии талибов – 55-я бригада, состоящая преимущественно из наемников. Поддержку спецназу оказывают вертолеты огневой поддержки 160-й авиагруппы и турбовинтовые самолеты АС-130.

Уже сейчас очевидно, что американцы бросили в бой свой спецназ отнюдь не для того, чтобы уничтожить 55-ю бригаду талибов (хотя за сутки до начала рейда ряд американских СМИ со ссылкой на военные источники предполагали, что наземная операция будет проводиться в первую очередь против этого подразделения).

Спецназ, как подчеркивали в Пентагоне буквально накануне начала наземного рейда, предназначен для проведения исключительно точечных ударов с целью выполнения главной задачи операции возмездия – уничтожения бин Ладена, его окружения и верхушки «Талибана» А это значит, что атака на 55-ю бригаду вызвана тем, что именно в ее расположении скрывается бин Ладен или мулла Мухаммад Омар. И именно поэтому Пентагон не спешит обнародовать достоверную информацию об операции. Если она провалится и бин Ладен уйдет, будет официально объявлено о том, что спецназу удалось хорошенько потрепать элитное подразделение талибов. В противном случае уже сегодня Америка будет праздновать первую большую победу в войне с международным терроризмом.

**Газета.Ru**

# Чего боятся террористы?

*Чувства и мысли, высказываемые в этой статье, опубликованной российской газетой «Провинция», весьма спорные по своему радикализму. Основанием для них служат события в США и невыигранная чеченская война. В целом автор ориентирован на кардинальное решение проблемы терроризма применением силовых средств. В этом отношении материал заслуживает осмысления.*



## Оправдание палачей

Мир видит приготовления к какой-то непонятной кампании, которая продлится, по некоторым оценкам, от пяти до десяти лет. Громкие лозунги быстро падают в цене. Налицо попытки администрации Буша явно или тайно сговориться со всеми, всех задобрить и сделать союзниками. В американскую коалицию готовы вступить уже такие государства, как Иордания, Сирия и даже Иран, еще вчера всенародно проклинавший США.

Ясир Арафат демонстративно сдает кровь для того, чтобы ее перелили кому-то из пострадавших американцев. Представители Вашингтона едут в Пакистан, на территории которого сотни баз для подготовки террористов, и прощают Исламабаду долг в 30 миллиардов долларов, чтобы пакистанцы «раздружились» с талибами.

В России тоже не обошлось без черного юмора. Духовное управление мусульман Азиатской части РФ, Евразийская партия и некое общество «Православное единство» (интересно, с кем?) заявили, что террор в США устроили американские сионисты, чтобы потом все свалить на бедных мусульман и развернуть антиисламскую истерию. Америку призвали покаяться. Логика железная. Во-первых, взрывы организовали не мусульмане, а сами американцы в союзе с МОССАДом. Во-вторых, кто это сделал – никогда не узнают, а если узнают, то судить виновников надо предельно цивилизованно, в Гааге, чтобы террористы имели возможность для широкой дискуссии и защиты из квалифицированных адвокатов.

Да, он взрывает небоскребы и убивает невинных людей, в том числе детей и женщин. Но не забывайте, господа, террорист – человек, а потому с ним надо обращаться бережно. Надо разобраться в мотивах его поступков, попытаться понять, что его подвигло на крайние меры. И тут легко вырулить на «глубинные» причины: терроризм – от бедности, безысходности, отчаяния. Не желает Израиль отдать свою территорию, начиная с Иерусалима, арабам – вот и находятся среди них воины, которые от безысходности взрывают вместе с собой магазины и дискотеки. Не хочет Америка как следует поделиться своими богатствами с мусульманским миром – вот и атакуют ее бедные, нищие люди на «Боингах». Так что не террористам надо каяться. Каяться надо Америке, Европе, всем, кто заподозрил мусульман в чем-то неподобающем. Всем, кто говорит, будто европейская, атлантическая цивилизация имеет какие-либо преимущества перед другими. Кайтесь и готовьтесь к новым терактам.

## Тень от верблюжьей колючки

В привычной нам системе ценностей главная ценность – это человеческая жизнь. Высшая степень угрозы – угроза физического уничтожения. Исходя из этого, президент Буш объявил, что террористов ждет неотвратимое возмездие, и думает, будто это кого-то напугало. Непосредственные исполнители терактов в США, как известно, заведомо, абсолютно сознательно шли на гибель. Смертью, ковровыми бомбардировками, десантными вылазками, ракетами и даже ядерными зарядами бойцов такого «исламского фронта» не испугаешь. Они счастливы погибнуть в борьбе с «неверными» и попасть в рай.

Буш, да и не только он, а все мы, часто забываем, что имеем дело с представителями иной цивилизации. Если на Землю прилетят инопланетяне, не стоит бежать к ним с хлебом-солью. Может оказаться, что для них признак вражды – протянутая рука.

Так же «зазеркально» выглядит логика так называемых шахидов – смертников, приносящих себя в жертву в борьбе с «неверными». Это не темные фанатики, а, как правило, образованные, интеллигентные юноши, среди них есть выпускники университетов. Палестинцы считают шахидов не террористами, а героями. Родители гордятся, если их сын «гибнет за веру». Когда юноша-шахид, спрятав под одеждой взрывчатку, погибает, унося жизни невинных людей, его невесту поздравляют, словно случился большой праздник. Дом шахида отмечают черным флагом, чтобы каждый мог зайти сюда и почтить память героя.

Можно спорить с человеком, который говорит, что дважды два – пять, но нельзя спорить с тем, кто говорит, что дважды два – это полуденная тень от верблюжьей колючки. Прежде чем бороться с террористами и говорить о возмездии, надо выяснить элементарное: **что для них является возмездием**.

В свое время англичане в Пакистане придумали наказание для шахидов: их хоронили в мешках из свиной кожи. Другое действенное средство – угроза роду, фамилии. Одинокий террорист – герой, не боящийся смерти. Но если он знает, что в результате его «героизма» может пострадать весь его род, родители, братья, сестры – даже самый отъявленный фанатик остановится.

В 1982 году Сирию будоражили акции исламских экстремистов, которые выступали против светского правления президента Хафеза Асада. Асад по-своему решил эту проблему. Он выяснил, что большинство террористов – выходцы из крупного города Хама, что там их «родовые гнезда». По приказу президента кварталы Хамы подверглись мощному артиллерийскому обстрелу. После этого на руины были направлены бульдозеры. Они закатали развалины и сделали на месте жилых кварталов площадки на парковки автомобилей. По оценкам «Международной амнистии», в результате этой жесточайшей акции были уничтожены около 25 тысяч жителей, в основном гражданские лица. С тех пор Асад не имел в Сирии противников в лице мусульманских радикалов.

Другой пример. В 1985 году в Бейруте террористы похитили четырех советских дипломатов. Власти Ливана начали переговоры, которые явно ни к чему не вели. Пришлось действовать людям из КГБ СССР. Разведчики сумели найти в Ливане брата одного из террористов, схватили его, отрубили ему некую часть тела и отправили похитителям по почте с соответствующим уведомлением: если не отпустите наших дипломатов – в следующий раз будем высылать вам головы ваших родственников. Дипломатов тут же отпустили.

Есть над чем подумать.

**Сергей ПАВЛЕНКОВ, политолог (Москва)**

*Печатается в сокращении*

# Япония попросила прощения у корейцев



Глава правительства Японии Дзюнъитиро Коидзуми принес извинения Южной Корее за жестокости, которые пришлось пережить корейцам за 35 лет японской оккупации страны. Этот шаг предпринят для улучшения двусторонних отношений, заметно ухудшившихся из-за споров между Сеулом и Токио в оценке событий Второй мировой войны, возникших проблем в рыболовной сфере и в вопросе о японской поддержке американской операции против афганских талибов. «Я прошу прощение за боль и страдания, которые причинила Япония корейскому народу в годы японского колониального правления», – заявил Дз.Коидзуми. Эти слова он произнес в старой тюрьме Содемун, в которой японцы казнили корейских борцов за независимость. Сейчас в здании тюрьмы располагается мемориальный музей.

Несмотря на покаяние премьер-министра, его появление в Содемуне было встречено антияпонскими выступлениями. Южнокорейская сторона проявила озабоченность после того как министерство образования Японии одобрило серию учебников истории, которые были написаны группой историков-националистов. В них утверждается, что Япония не оккупировала Корею и другие страны региона, а шла к ним с цивилизаторской миссией. Следующим шагом, в результате которого охладели японско-южнокорейские отношения, стало посещение премьер-министром Японии токийского храма Ясукуни, в котором захоронены останки видных японских политических деятелей и военачальников. В Южной Корее и некоторых других азиатских странах их считают военными преступниками.

Кроме того, южнокорейские власти выразили крайнее недовольство в связи с решением Японии поддержать американскую операцию против талибов, рассматривая это как возрождение японского империализма. Дз.Коидзуми в связи с этим неоднократно заявлял, что решение принять участие в антитеррористической операции обусловлено лишь необходимостью борьбы с терроризмом. Правительство и парламент Японии согласились с предоставлением японским силам самообороны возможности осуществлять тыловое обеспечение американской операции. В соответствии с послевоенной конституцией, Япония располагает силами самообороны, которые могут использоваться лишь для отражения внешней агрессии и не имеют права участвовать в зарубежных военных миссиях.

